РАЁННАЯ ГАЗЕТА

Да канца II тысячагоддзя – 162 дні

# Калінкавіцкія НАВІНЫ

СУБОТА, 22 ліпеня 2000 года № 89 (8451) ВЫДАЕЦЦА З 1941 ГОДА Цана дагаварная

Жніво - 2000 Жніво - 2000 Жніво - 2000 Жніво - 2000 Жніво - 2000

## ВЫМУШАНАЯ АДТЭРМІНОЎКА

Жніво пачалося. Тэмпы і якасць яго ў велізарнай ступені залежаць ад таго, як да гэтай работы будзе падрыхтавана збожжаўборачная тэхніка, сушыльная гаспадарка, зернеачышчальныя машыны. Вось чаму ў раёне ўжо стала традыцыяй напярэдадні жніва ў кожнай гаспадарцы праводзіць так званую лінейку гатоўнасці. Сёлета яна адбылася 14 ліпеня. Напярэдадні яе з ліку спецыялістаў, якія працуюць ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама, іншых раённых арганізацыях было створана пяць камісій, якія ўзначалілі адказныя работнікі раённага Савета дэпутатаў і ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама.

Аўтару гэтых радкоў давялося суправаджаць камісію, якую ўзначальваў першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама А.М. Дудко. Сваю работу названая камісія пачала з калгаса "Ленінская іскра". Далей яе маршрут пралягаў праз саўгасы "Беларусь","Дудзічы", "Калінкавіцкі" і закончыўся ў калгасе "Садружнасць".

Што ж убачылі члены камісіі, якую ступень гатоўнасці да жніва прадэманстравалі калгасы і саўгасы? Але перш, чым адказаць на гэтыя пытанні, адзначым некаторыя асаблівасці сёлетняга жніва.І першая з іх тая, што з-за майскіх замаразкаў, якія значна пашкодзілі пасевы як азімых, так і яравых збожжавых, паспяванне адной і той жа культуры на адным і тым жа полі адбываецца ў розныя тэрміны. Другая асаблівасць заключаецца ў тым, што ні адна гаспадарка раёна не мае столькі паліва, колькі яго патрэбна, каб правесці ўборачную кампанію ў сціслыя тэрміны і без страт, своечасова і якасна перапрацаваць намалочанае зерне. І трэцяя асаблівасць у тым, што ўбіраць збожжавыя давядзецца састарэлай, малапрадукцыйнай тэхнікай тыпу СК-5"Ніва", "Енісей-1200" і г.д. І кіраўнікам гаспадарак, і спецыялістам, і механізатарам усе гэтыя ісціны добра вядомы і таму яны прымаюць меры, каб усё было як належыць. У гэтым яшчэ раз пераканаліся члены камісіі,калі пабывалі ў гаспадарках. Але сказаць, што сёння ўсе гаспадаркі гатовы вывесці сваю збожжаўборачную тэхніку ў поле нельга. Калгасу " Ленінская іскра" па словах галоўнага інжынера гаспадаркі Уладзіміра Уладзіміравіча Селіванава патрэбна яшчэ 4-5 дзён, каб давесці ўсе пяць наяўных камбайнаў да ладу.У саўгасах "Беларусь", "Дудзічы" і "Калінкавіцкі" аналагічны малюнак з падрыхтоўкай збожжаўборачнай тэхнікі. Аб тым, як сёлета нялёгка і няпроста будзе гаспадаркам весці жніво, сведчыць такі факт: у саўгасе "Дудзічы" збіраюцца вывесці ў поле камбайн СК-5 "Ніва",выпушчаны 16 гадоў таму назад. Сярэдні ж узрост збожжаўборачнай тэхнікі ў гаспадарках, дзе пабывала камісія, 10-12 гадоў. Выключэнне складае камбайн КЗР -10 вытворчасці завода " Гомсельмаш", які нядаўна набыў калгас "Садружнасць". Ён ужо апрабаваны ў рабоце і атрымаў належную ацэнку спецыялістаў. Ясная справа, што такая састарэлая тэхніка пры той нагрузцы( а гэта 120-150 гектараў зерневых і зернебабовых на адзін камбайн), якая выпала сёлета на яе долю, будзе часцей звычайнага псавацца, выходзіць са строю. Набыць жа новыя збожжаўборачныя камбайны нашым калгасам і саўгасам проста не па кішэні. Таму і вымушаны яны штогод рамантаваць нават тыя машыны, якія даўно ўжо пара адправіць у Жлобін на пераплаўку.

У ходзе работы камісіі кіраўнікі гаспадарак і іх спецыялісты звярталіся да начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама са шматлікімі просьбамі аб аказанні дапамогі пры вырашэнні тых ці іншых праблем. Трэба аддаць належнае А.М. Дудко,ён цярпліва выслухоўваў усіх просьбітаў, некаторыя пытанні вырашаў на месцы, а некаторыя занатаваў на паперы, каб потым разабрацца з імі і даць адказ. На агледзе тэхнікі прысутнічалі дырэктар саўгаса "Беларусь" К.І. Лазарчук, дырэктар саўгаса "Дудзічы" М. І. Дулуб, дырэктар саўгаса "Калінкавіцкі" Ю.К. Некрашэвіч і старшыня калгаса "Садружнасць" А.М. Ком. А вось старшыня калгаса "Ленінская іскра" С.В. Пяшэвіч не палічыў для сябе патрэбным сустрэцца з камісіяй, а даручыў гэтую справу сваім спецыялістам. Шкада, што ён так зрабіў, бо ў ходзе знаёмства з рамонтам збожжаўборачнай тэхнікі ў членаў камісіі ўзніклі пытанні, адказы на якія мог даць толькі старшыня.

Паколькі на лінейку гатоўнасці ні адна з правераных гаспадарак не змагла паставіць усю наяўную збожжаўборачную тэхніку, то А.М. Дудко даў яшчэ некалькі дзён на завяршэнне рамонтных работ.

**Віктар САКОВІЧ.**

✓Фотарэпартаж

## У эксбазе "Ліпава" справілі Зажынкі







У далёкія язычніцкія часы старажытныя людзі не выходзілі на паляванне без рытуальнага танца ля вогнішча. Так і хлебаробы пачынаюць жніво з традыцыйнага абрада - Зажынак.

20 ліпеня свята Зажынак адбылося ў эксбазе "Ліпава" на полі ля Хамічоў. Восем камбайнавых экіпажаў разам з тэхнічнай абслугай гаспадаркі прымалі віншаванні ад кіраўніцтва эксбазы і ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання райвыканкама, кіраўнікоў суседніх калгасаў, саўгасаў. Музычныя падарункі хлебаробам прыпаднеслі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці Ліпаўскага СДК. Такім чынам, жніво пачалося.

У добры час, хлебаробы!

**Алесь ІВАНЕНКА.**

Из рейда

## НЕ КОМПАНЕЙЩИНА, А ПОВСЕДНЕВНАЯ РАБОТА

О благоустройстве нашего города и населенных пунктов района газета "Калінкавіцкія навіны" писала не один раз. Отмечалось и хорошее, и плохое. Как обычно, упор делался на недостатки, контроль за их устранением.

Не будем голословными, но работа по благоустройству как на предприятиях и в организациях, так и в частном секторе в городе проделана большая. Особенно это наблюдалось ранней весной, когда после долгих зимних месяцев, накопившийся и всем надоевший бытовой и строительный мусор вывозился на свалку. А что же делается сейчас?

На этот вопрос недавно мы попытались найти ответ на улицах так называемого Цыганского поселка. Надо отметить сразу: мы ещё не привыкли действовать по принципу справедливой народной мудрости - не тот настоящий хозяин, кто быстро убирает за собой, а тот, кто не мусорит. Видимо, не каждый это понимает. У жителя с улицы Смугнаровцев д. №55 Н. Есьмана, например, во дворе стоит собственный трактор, а на улице лежит куча битых камней. Хозяина, правда, дома не оказалось, зато хозяйка очень уверяла, что эту "щебенку" они завтра же уберут. И не было уверенности, что это такое: мусор или строительный материал и для чего он сюда привезен. Хотя, повторяем, хозяйка твердила одно: вывезем на свалку. Рядом, около дома №57, где проживает С. Гецман, прямо на улице - куча мусора, уже поросшего густой травой. И опять то же самое: придет хозяин с работы, обязательно уберем.

Конечно, этим людям дано предписание в кратчайший срок убрать возле своих домов, но есть и такие, которые не могут этого сделать в силу многих обстоятельств: нет транспорта, чтобы вывезти мусор или отходы строительства, нет рабочей силы, чтобы погрузить его в машину или на телегу трактора. Например, в доме №51 проживает пенсионер В. Шкода. Конечно, трудно старику убрать всё то, что осталось от кладки отопительной печки — старый кирпич и куски глины "украшают" территорию улицы напротив его дома.Но тем не менее решать вопрос надо, поэтому и В.Шкода было выдано предписание сроком на 10 дней.

На улице имени Л. Толстого у дома № 11 хозяйка ровняла кучу гравия, неизвестно для чего привезенного сюда. Напротив дома лежат две железобетонные конструкции непонятного назначения.

- Лежат давно уже, какие -то связисты привезли и сбросили, —сказала женщина. Только вот "забыла" она сказать, что одному из членов рейдовой бригады очень хорошо известно, что муж ее является именно работником связи и зачем они, эти короба, оказались у дома №11 кому -кому, а ему - то известно хорошо.

У дома №7 С. Демидович на улице лежит куча ... обыкновенной земли, и тоже уже поросшей травой.

- Для чего она здесь? Привезли на огород, но весной не использовали, вот и осталась, — отвечает хозяйка. -

Придет время уберем.

Но время не пришло, а прошло. А земля осталась.

У дома №18 В. Баланчука жена убирала траву. Рвала, несчастная, огромные лопухи и разросшуюся крапиву. Подумалось: все умеют наши женщины, а вот одного не умеют — научить мужей косить! Шутка, конечно, но горькая. Мало того женщина очень огорчалась тем, что в последнее время трактор с тележкой ГПО ЖКХ очень даже обижает жильцов улицы: приедет, развернется и уедет, если никого возле собранного мусора нет. А почему бы не посигналить, не стоять же возле мусора целый день и караулить, ждать, не зная, в каком часу этот транспорт придет.

Да, об этом говорили многие горожане и на других участках, где мы побывали. Поэтому очень хотелось бы, чтобы соответствующие службы ГПО ЖКХ работу этого транспорта взяли под особый контроль.

В общем же картина на тех улицах, где мы побывали, удовлетворительная, хотя во многом портит вид нескошенная трава у каждого дома.

**Рейдовая бригада.**

## ПАКАЗЧЫКІ гаспадарак раёна па вытворчасці мяса ў першым паўгоддзі 2000 года

| Назва гаспадарак | Атрымана мяса ў жывой вазе ( цэнтнераў) | | Сярэднясутачная прывага адной галавы БРЖ ( грамаў) | |
|---|---|---|---|---|
| | 2000г. | 1999 г. | 2000 г. | 1999 г. |
| Дапаможная гаспадарка камбіната хлебапрадуктаў | 5461 | 4957 | 665 | 544 |
| "Радзіма" | 1774 | 2831 | 333 | 594 |
| "Каплічы" | 1350 | 1155 | 276 | 294 |
| "Беларусь" | 1299 | 1370 | 397 | 414 |
| эксбаза " Ліпава" | 923 | 1055 | 312 | 350 |
| "Іскра" | 838 | 797 | 321 | 344 |
| "Дружба" | 732 | 710 | 280 | 300 |
| "Беразнянскі" | 688 | 915 | 225 | 287 |
| імя Кірава | 614 | 706 | 270 | 316 |
| "Дудзічы" | 534 | 578 | 309 | 321 |
| "Калінкавіцкі" | 524 | 641 | 277 | 342 |
| "Трамлянскі" | 517 | 461 | 365 | 293 |
| "Сейбіт" | 510 | 436 | 325 | 244 |
| імя Кутузава | 458 | 569 | 282 | 355 |
| "Камунар" | 444 | 465 | 411 | 396 |
| "1 Мая" | 439 | 442 | 254 | 261 |
| "Галявічы" | 384 | 439 | 307 | 320 |
| імя Чапаева | 379 | 467 | 274 | 283 |
| "Ленінская іскра" | 372 | 679 | 207 | 338 |
| "Азарычы" | 358 | 505 | 274 | 326 |
| імя Леніна | 356 | 387 | 358 | 380 |
| "Ненач" | 351 | 480 | 210 | 261 |
| "50 гадоў БССР" | 339 | 376 | 242 | 256 |
| імя Фрунзе | 313 | 396 | 261 | 359 |
| Дапаможная гаспадарка МАТП | 299 | 344 | 206 | 322 |
| імя Мічурына | 293 | 571 | 176 | 323 |
| "Чырвоная дуброва" | 281 | 251 | 310 | 304 |
| " Садружнасць" | 264 | 227 | - | - |
| "50 гадоў Кастрычніка" | 257 | 273 | 353 | 390 |
| імя Калініна | 238 | 241 | 224 | 200 |
| "Рассвет" | 192 | 279 | 198 | 290 |
| "Зара" | 129 | 279 | 135 | 295 |
| **Усяго па раёну:** | **22092** | **24295** | **289** | **344** |

## ПАКАЗЧЫКІ гаспадарак раёна па вытворчасці малака ў першым паўгоддзі 2000 года

| Назва гаспадарак | Усяго атрымана малака (цнт) | | Надоена малака ад каровы (кг) | |
|---|---|---|---|---|
| | 2000 г. | 1999г. | 2000г. | 1999 г. |
| "Каплічы" | 11643 | 12450 | 1111 | 1186 |
| эксбаза "Ліпава" | 6833 | 7312 | 1166 | 1252 |
| "Іскра" | 6632 | 7192 | 1102 | 1205 |
| "Беразнянскі" | 6606 | 8104 | 990 | 1260 |
| "Радзіма" | 6592 | 8862 | 1115 | 1528 |
| імя Кірава | 5218 | 5881 | 1052 | 1188 |
| "Ленінская іскра" | 4674 | 6768 | 776 | 1136 |
| " Трамлянскі" | 4489 | 3722 | 1023 | 908 |
| "Калінкавіцкі" | 4124 | 4247 | 881 | 959 |
| "Сейбіт" | 3791 | 3549 | 1089 | 983 |
| "Беларусь" | 3739 | 4430 | 836 | 923 |
| "Дружба" | 3657 | 3917 | 967 | 1149 |
| імя Чапаева | 3611 | 4329 | 749 | 921 |
| "50 гадоў БССР" | 3591 | 4333 | 779 | 959 |
| "Галявічы" | 3571 | 4369 | 963 | 1207 |
| "Ненач" | 3461 | 3838 | 766 | 847 |
| імя Кутузава | 3272 | 3989 | 968 | 1187 |
| "1 Мая" | 3197 | 3422 | 966 | 1063 |
| Дапаможная гаспадарка МАТП | 3069 | 3454 | 1058 | 1270 |
| " Чырвоная дуброва" | 3021 | 3156 | 975 | 959 |
| " Азарычы" | 2956 | 3568 | 837 | 1014 |
| імя Леніна | 2880 | 3486 | 729 | 887 |
| "Дудзічы" | 2798 | 3342 | 936 | 1152 |
| " Камунар" | 2793 | 3052 | 725 | 743 |
| імя Фрунзе | 2587 | 3095 | 739 | 823 |
| "50 гадоў Кастрычніка" | 2585 | 2677 | 917 | 959 |
| імя Мічурына | 2392 | 4062 | 708 | 1164 |
| імя Калініна | 2129 | 2568 | 582 | 700 |
| "Зара" | 1493 | 2125 | 691 | 1084 |
| "Рассвет" | 1262 | 2144 | 437 | 722 |
| " Садружнасць" | - | - | - | - |
| **Усяго па раёну:** | **118646** | **137451** | **914** | **1067** |

### Жывёлагадоўля

# Аб чым сведчыць статыстыка

Раённы аддзел статыстыкі падвёў вынікі работы жывёлаводаў калгасаў і саўгасаў раёна за шэсць месяцаў бягучага года. Аб чым жа сведчаць лічбы? Ды аб тым, што выкананне гадавых планаў продажу дзяржаве малака і мяса даецца амаль усім гаспадаркам вельмі нялёгка. Чаму так атрымоўваецца? На наш погляд таму, што ў шэрагу гаспадарак зменшылася ў параўнанні з мінулым годам пагалоўе буйной рагатай жывёлы, знізілася яе прадуктыўнасць. Узяць, напрыклад, калгас "Рассвет" (старшыня А.М. Шэванда). Летась па стану на 1 ліпеня ў гаспадарцы было 929 галоў буйной рагатай жывёлы, сёлета ж яе на гэту дату ёсць толькі 752 галавы. Статак зменшыўся на 19%. На 3% паменшылася тут і колькасць кароў,на 5% - свіней. Упала не толькі колькасць жывёлы, знізілася і яе прадуктыўнасць. Сярэднясутачная прывага адной галавы буйной рагатай жывёлы на дарошчванні і адкорме ў першым паўгоддзі мінулага года складала 290 грамаў (паказчык мізэрны, куды ўжо далей), а сёлета — толькі 198 грамаў. Сярэдні надой ад каровы летась быў за паўгода 722 кілаграмы, сёлета - 437 кілаграмаў малака. Падзенне — 39%. Таму і не дзіўна, што за 6 месяцаў калгас "Рассвет" гадавы план продажу малака дзяржаве выканаў на 32,9 %. Ужо сёння бачна, што гадавы план продажу малака дзяржаве гаспадарка не выканае, хаця ён адзін з самых малых сярод калгасаў і саўгасаў раёна — усяго 400 тон, меншы план толькі ў калгасе "Зара" - 320 тон. План па продажу мяса гаспадарка выканае пры ўмове, што давядзе да здатачных кандыцый усю тую жывёлу, якая зараз знаходзіцца на адкорме. Адной з галоўных прычын такога плачэўнага стану жывёлагадоўлі з'яўляецца тое, што ў калгасе ўжо трэці год няма галоўнага заатэхніка. Другая прычына крыецца ў слабай кармавой базе. Калі б тут нармальна кармілі жывёлу, то і прывагі і надоі былі б не горш сярэднераённых паказчыкаў.

На жаль, сітуацыя з вытворчасцю малака і мяса, аналагічная рассветаўскай, назіраецца і ў шэрагу іншых гаспадарак раёна. Калгасу "Ленінская іскра",напрыклад, па плану сёлета трэба прадаць дзяржаве 1150 тон малака. За шэсць месяцаў гаспадарка рэалізавала 396,6 тоны малака. Гадавы план выкананы на 34,5%. Для параўнання скажам, што летась за гэты час калгас прадаў дзяржаве 593,6 тоны малака, або на 197 тон больш, чым сёлета. План па рэалізацыі мяса выкананы на 42,2%.

З 30 гаспадарак раёна, якія займаюцца вытворчасцю малака, толькі чатыры гадавы план продажу яго дзяржаве выканалі на 50 і больш працэнтаў. Усе астатнія ідуць з адставаннем ад графіка. Вельмі слаба спраўляюцца з выкананнем плана продажу малака дзяржаве, акрамя ўпамянутых вышэй калгасаў "Рассвет" і "Ленінская іскра",калгасы "Зара", імя Кутузава, імя Мічурына, імя Калініна і некаторыя іншыя гаспадаркі.Таму і не дзіўна, што гадавы план раёнам за шэсць месяцаў выкананы толькі на 44,5%. У другім паўгоддзі, каб выканаць план, раёну трэба прадаць дзяржаве 13650 тон малака. Справа не лёгкая, але пасільная пры ўмове, што калгасы і саўгасы ўзмацняць рацыён кармлення дойнага статка. Магчымасці для гэтага ёсць, бо пачынаецца ўборка вырашчанага ўраджаю і ў рацыён жывёлы можна будзе ўвесці і зерне, і буракі, і кукурузу, а не абыходзіцца адной толькі травой.

Не лепшым чынам абстаялі ў першым паўгоддзі і справы з вытворчасцю і рэалізацыяй мяса. Калі летась сярэднясутачная прывага адной галавы буйной рагатай жывёлы ў раёне склала 344 грамы, то сёлета толькі 289 грамаў, што роўна на 100 грамаў менш, чым сярэднясутачная прывага адной калгаснай ці саўгаснай свінні. Натуральна, што і валавых прываг сёлета было атрымана менш, чым летась, ні многа, ні мала аж на цэлых 16%, або на 268 тон.

Статыстыка засведчыла і другую негатыўную тэндэнцыю: устойлівае зніжэнне пагалоўя буйной рагатай жывёлы ў радзе гаспадарак раёна. З 31-й гаспадаркі, якая трымае буйную рагатую жывёлу, 18 зменшылі яе колькасць у параўнанні з тым, што было ў іх у першым паўгоддзі 1999 года. Натуральна, што і ў цэлым па раёну знізілася колькасць буйной рагатай жывёлы. Калі летась па стану на 1 ліпеня яе ў калгасах і саўгасах налічвалася 44215 галоў, то сёлета 43180, або на 1035 галоў менш. Гэта роўна столькі,колькі зараз мае саўгас " Азарычы". Калі гаварыць вобразна, то з карты раёна знікла адна гаспадарка. Асабліва "вызначыліся" у гэтым напрамку калгасы "Рассвет", імя Чапаева, "Зара", імя Мічурына, імя Калініна, саўгасы "Дудзічы" ,"Ненач" і некаторыя іншыя. Хацелася б спытаць у кіраўнікоў і спецыялістаў упамянутых вышэй гаспадарак: " Куды ж мы ідзем, таварышы? Што ж будзе з вашымі калгасамі і саўгасамі, калі штогод змяншаць пагалоўе буйной рагатай жывёлы на 10-15%? "Відавочна адно: сітуацыю трэба папраўляць. На жаль,таго, што робіцца ў гэтым напрамку ў нашых калгасах і саўгасах, яўна недастаткова. Каб пераканацца ў гэтым, варта зірнуць на лічбы,узятыя з таго ж статыстычнага даведніка за першае паўгоддзе 2000 года. Летась гаспадаркі раёна за першыя шэсць месяцаў атрымалі на 100 кароў і нецеляў 63 галавы прыплоду, сёлета - 57, або на 6 галоў менш. Папоўніць грамадскі статак можна было б за кошт жывёлы, закупленай у насельніцтва. Але і ў гэтым напрамку работа вялася вельмі слаба: было закуплена 1042 галавы, гэта значыць, на 9 галоў больш, чым загінула ( 1033 галавы). Як бачна, ні за кошт уласнага прыплоду, ні за кошт закупу ў насельніцтва грамадскі статак не расце, што непазбежна прывядзе да зніжэння вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі. Дапусціць гэтага ні ў якім разе нельга.

**Алег ФРАЛОЎ,**
**галоўны заатэхнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчаваннярайвыканкама.**

## ЗВОДКА аб ходзе выканання гадавых планаў продажу дзяржаве малака і мяса гаспадаркамі раёна па стану на 1 ліпеня 2000 года (у працэнтах да плана)

| Назва гаспадарак | Малако | Мяса |
|---|---|---|
| "Садружнасць" | 94,0 | - |
| Палескі тэхнікум | 59,3 | 35,3 |
| "Сейбіт" | 57,0 | 24,0 |
| "Трамлянскі" | 53,9 | 29,7 |
| "Чырвоная дуброва" | 51,7 | 48,3 |
| эксбаза "Ліпава" | 51,5 | 92,1 |
| "Радзіма" | 49,3 | 66,1 |
| "50 гадоў Кастрычніка" | 48,9 | 33,8 |
| імя Фрунзе | 48,8 | 56,0 |
| "Дудзічы" | 47,6 | 38,0 |
| "1 Мая" | 47,5 | 45,4 |
| "Дружба" | 46,9 | 25,7 |
| "Каплічы" | 46,2 | 45,0 |
| імя Леніна | 45,4 | 55,8 |
| "Іскра" | 45,0 | 57,0 |
| "50 гадоў БССР" | 44,7 | 52,3 |
| "Галявічы" | 44,3 | 49,5 |
| "Азарычы" | 44,0 | 19,7 |
| Дапаможная гаспадарка МАТП | 44,0 | 40,3 |
| "Камунар" | 43,7 | 41,2 |
| "Калінкавічы" | 43,5 | 33,0 |
| "Ненач" | 43,0 | 69,3 |
| "Беразнянскі" | 42,4 | 48,6 |
| імя Кірава | 42,2 | 32,2 |
| "Беларусь" | 40,7 | 43,9 |
| імя Чапаева | 40,7 | 32,6 |
| імя Калініна | 37,7 | 25,5 |
| імя Кутузава | 37,4 | 61,8 |
| "Зара" | 34,8 | 68,2 |
| "Ленінская іскра" | 34,5 | 42,2 |
| імя Мічурына | 33,0 | 38,1 |
| "Рассвет" | 32,9 | 51,8 |
| Дапаможная гаспадарка камбіната хлебапрадуктаў | - | 49,7 |
| **Усяго па раёну:** | **44,5** | **41,8** |

# Дапамагаюць гараджане

Калгас "Ленінская іскра" - самы багаты ў раёне на натуральныя лугі. Знаходзяцца ў пойме ракі Прыпяць і займаюць плошчу каля васьмісот гектараў. Характэрнай асаблівасцю заліўных лугоў з'яўляецца вялікая колькасць на іх розных па памерах вадаёмаў. Сёлета на берагах іх вырасла выдатная трава, аднак тэхнікай прыбраць яе немагчыма, можна толькі ўручную. На дапамогу вяскоўцам прыйшлі гараджане. 17 ліпеня каля 400 калінкавічан прыехалі на луг, што знаходзіцца побач з вёскай Міхнавічы, каб на няўдобіцах нарыхтоўваць травяністы корм для грамадскай жывёлы. А калгасу корм вельмі патрэбны, бо з траў першага ўкосу тут нарыхтавалі толькі 510 тон сена і 269 тон сенажу, што ў пераліку на ўмоўную галаву жывёлы складае 2,5 цэнтнера кармавых адзінак.

У вёсцы Міхнавічы ў яму пакладзена ўжо каля 150 тон зялёнай масы, нарыхтаванай гараджанамі.

**Міхаіл ФЕДАРОВІЧ.**

